**№ 58 (4003)**

28 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭМА ДНЯ

# Хто з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта збярэ 100 тысяч подпісаў?

*Карэспандэнты "Народнай Волі" назіралі, як ідзе збор подпісаў за некаторых прэтэндэнтаў у прэзідэнты. Рэдакцыйнае заданне было такім: прастаяць гадзіну разам з пікетам...*

## «Гайдукевіч ізноў у прэзідэнты? Няхай лепш на баяне іграе...»

27 ліпеня. 11.00. Ля ўваходу ў сталічны ГУМ пікет і збор подпісаў за адыёзнага кіраўніка ЛДПБ і шматразовага прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду **Сяргея ГАЙДУКЕВІЧА** толькі распачынаецца.

Студэнтка Анжаліка, якая пад сцягам ЛДПБ збірае подпісы, распавядае, што *"працуе на дабрачыннай аснове, бо сама – член партыі"*.

Першай падыходзіць паставіць подпіс за Гайдукевіча жанчына сярэдніх гадоў, якая *"сама з сям'і ваенных, і ёй падабаецца чалавек слова"*.

*"Гайдукевіч – чалавек слова?* – смяецца мужчына побач. – *Вы хоць ведаеце што гэта за чалавек?"*

Дыскусіі не атрымліваецца, і бакі мірна разыходзяцца па сваіх справах. Але ў хуткім часе ставяць свае подпісы яшчэ двое.

*"Мэт і задач прэтэндэнтаў не ведаю, але лічу, што ўсе маюць права стаць кандыдатамі",* – філасофскі тлумачыць адзін з іх.

Зрэшты, на гэтым усплёск актыўнасці грамадзян заканчваецца, а ля століка распачынаецца спрэчка мужчын, якія пачынаюць абмяркоўваць сітуацыю ў Беларусі ў прыватнасці і ў свеце ў цэлым. Дастаецца ўсім – і ЗША з Польшчай, і краінам Балтыі, і Расіі з Украінай, і Някляеву з Казуліным, і нават *"бабам, якія не дзяцей нараджаюць, а лезуць у палітыку"*.

*"І гэты нейкі, як прыбіты,* – ківаюць яны на фотаздымак Гайдукевіча. – *Выгляд такі, як быццам асуджаны. Дзе вы такое фота знайшлі? Зрэшты, чаму радавацца, калі ведае, што ў чарговы раз яму нічога не свеціць".*

*"Мужчыны, не маглі б вы дыскуціраваць крыху ў баку",* – тактычна адганяе ад сябе "палітолагаў" зборшчыца подпісаў.

Атрымлівае Гайдукевіч "на арэхі" і ад сталай жанчыны:

– *Каторы год ідзе ў прэзідэнты, а вынік – нулявы,* – выказвае яна сваю пазіцыю студэнтцы. – *Цябе во тут пасадзілі, грошы на выбарах зарабляюць... О, Гайдукевіч музыкальную школу закончыў! Няхай лепш на баяне іграе, больш толку будзе.*

Тым часам за лідара ЛДПБ ставяць подпісы яшчэ два чалавекі – мужчына і юнак, які... збірае подпісы за прэтэндэнта Віктара Цярэшчанку. Салідарнасць, аднак!

У выніку за гадзіну ў падтрымку Сяргея Гайдукевіча падпісалася пяць чалавек. Ну як, як ён назбірае 100 тысяч подпісаў?

## «Можа, за эканаміста?..»

27 ліпеня. 12.00. Там жа, ля ГУМа, збіраюцца подпісы і за малавядомага эканаміста **Віктара ЦЯРЭШЧАНКУ.**

Ля плаката з біяграфіяй прэтэндэнта – пяць маладых людзей, якія праходзяць нейкі інструктаж і разыходзяцца на пікеты ў іншыя "кропкі".

*"У нас на адным пікеце збіраюць подпісы два чалавекі,* – распавядаюць мне зборшчыкі подпісаў. – *Сёння па Мінску – пяць пікетаў, але ў асноўным ходзім па кватэрах. Колькі подпісаў атрымліваецца ў дзень з аднаго пікета? Каля ста. Але ўсё залежыць ад таго, які дзень, якое надвор'е".*

Каля дваццаці хвілін персонай Віктара Цярэшчанкі наогул ніхто не цікавіцца. Але затым за 10 хвілін ізноў ажно тры чалавекі ставяць свае подпісы ў яго падтрымку. Гэта як нейкія ўсплёскі актыўнасці на сонцы.

*"Можа, за эканаміста?"* – нясмела прапаноўвае жонцы мужчына і спыняецца ля пікета Цярэшчанкі.

*"Ён жа 1950 года нараджэння, 65 гадоў ужо",* – тузае мужа за руку жанчына і сама падпісваецца за Таццяну Караткевіч.

Між тым за эканаміста ставяць подпісы яшчэ тры чалавекі. Жанчына, якая падпісалася апошняй, тлумачыць свой выбар так: *"Аддаю свой подпіс за ўсіх прэтэндэнтаў, акрамя Лукашэнкі".*

Вынік работы пікета ў падтрымку Віктара Цярэшчанкі – шэсць подпісаў за гадзіну. Мала.

## «Будуць зніжкі, там і набяром»



Пікет па зборы подпісаў за лідара беларускіх казакоў **Мікалая УЛАХОВІЧА** размясціўся на плошчы Калініна. У 14.00 тут нешматлюдна. На агітацыйным стэндзе некалькі ўлётак з фатаздымкам і кароткай біяграфіяй прэтэндэнта. Асобна размешчаны здымак, на якім людзі ў казацкай вопратцы і праваслаўныя святары.

У пікеце трое прыхільнікаў прэтэндэнта, прычым адзін з іх – сам кіраўнік штаба **Міхаіл ВОБРАЗАЎ. Д**а журналіста "Народнай Волі" ён адразу паставіўся з насцярогай і нават папрасіў паказаць журналісцкае пасведчанне: "*Чытаць я чытаў, але ж не бачыў ніколі, як вы выглядаеце"*...

Сварыцца не хацелася, не было такога рэдакцыйнага задання – канфліктаваць. Хаця незразумела, чаму звычайны чалавек, нават не журналіст, не можа стаяць побач з перадвыбарным пікетам і назіраць за працэсам. Нейкая свая логіка ў гэтых казакоў...

Асноўная публіка на плошчы – гэта пара жанчын сталага веку на лавачках ды людзі, якія ідуць праспектам па сваіх справах. Ля пікетаў на хвілінку спыняюцца літаральна адзінкі. Хаця па адзін бок помніка "усесаюзнаму старасце" збіраюць подпісы за Мікалая Улаховіча, па другі – за **Аляксандра ЛУКАШЭНКУ**. Так, за першыя 20 хвілін майго назірання жадаючых падпісацца не аказалася ні на адным пікеце. Нарэшце адна жанчына сталага веку падышла паставіць свой подпіс за дзеючага прэзідэнта. Патлумачыла: "Я спецыяльна са шпіталя прыехала, каб падпісацца за Лукашэнку. Скажу вам шчыра: я хачу, каб ён правіў вечна. А што?.. Ну, калі вечна не атрымаецца, то да таго часу, пакуль я не памру. У нас жа шчаслівая старасць, пра якую старыя за мяжой могуць толькі марыць. Так што больш ні за кога я падпісвацца не стану..."

Агітатары за Улаховіча нават не спрабавалі перацягнуць такую прыхільніцу Аляксандра Лукашэнкі на свой бок. Бессэнсоўна!

– Як ідуць справы? – запытваюся ў жанчын з "Белай Русі", якія збіраюць подпісы за дзеючага кіраўніка дзяржавы.

– А вам гэта навошта? Подпісаў у нас дастаткова.

– Дастаткова для чаго?

– Мы вам не абавязаны даваць справаздачу. Колькі сабралі – столькі сабралі.

– А я вось тут стаю, назіраю і бачу, што за паўгадзіны толькі адзін чалавек знайшоўся, які падтрымаў вылучэнне нібыта "самага папулярнага кандыдата...

У адказ пачула толькі крыўднае маўчанне. Ні слова! Жанчыны сціснулі вусны і адвярнуліся ў іншы бок.

Тым часам ля пікета за Улаховіча прытармазіла маладая дзяўчына. Спадар Вобразаў доўга ёй нешта тлумачыць, потым да размовы далучаецца яшчэ адзін агітатар... Нарэшце дзяўчына не вытрымлівае, дастае з сумкі пашпарт, ставіць подпіс ...

Якраз у гэты час на плошчы прытармożвае машына і нехта гучна выкрыквае: *"Пуцін г...но! Жыве Беларусь!"*

– Гэта на вас так рэагуюць, як на прадстаўнікоў Расіі? – пытаюся ў спадара Вобразава. Хаця, шчыра кажучы, пытанне было не самае разумнае, бо пікет за беларускага казака Улаховіча ніякім асаблівым чынам не пазначаны: калі б не столік з табурэтам і раскладны невялікі стэнд, то і не здагадаешся...

– А што там крыкнулі? – запытваецца ў адказ кіраўнік штаба. – Я не пачуў. Вось, бачыце, людзей няшмат, народ на лецішчах. Вулічныя пікеты не даюць неабходнай колькасці подпісаў, трэба ісці па кватэрах. Час яшчэ ёсць. І вы глядзіце, не напішыце там чаго не трэба, а то мы на вас тады ў суд пададзім.

Раптам ля нас спыняецца яшчэ адна машына і з яе выходзіць сам прэтэндэнт на залічэнне ў кандыдаты.

**– Я тут амаль гадзіну і за гэты час толькі адзін подпіс за вылучэнне вашай асобы. Такімі тэмпамі сабраць 100 тысяч подпісаў будзе немагчыма…**

– Ды яшчэ ж толькі пачатак кампаніі. Не праблема. Машына толькі разварочваецца, набірае абароты. Усё будзе нармальна.

А жанчына, якая прыехала разам з Мікалаем Улаховічам, дадала: "Трэба будзе ў выхадныя ісці да ГУМа. Там будуць зніжкі, людзі падцягнуцца, вось там і набяром...".

**Любоў ЛУНЁВА,**
**Алесь СІВЫ.**

## Перадых

Ініцыятыўная група **Сяргея КАЛЯКІНА** ўчора пікеты па зборы подпісаў у сталіцы не праводзіла наогул.

Як патлумачыў нам кіраўнік групы Валерый Ухналёў, гэта звязана з тым, што *"неабходны папярэднія вынікі работы".*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Забаранілі...

Улады Мінска забаранілі велапрабег у гонар 25-годдзя Незалежнасці.

Учора ініцыятыўная група Таццяны Караткевіч планавала збор подпісаў каля стэлы «Мінск – горад-герой», адкуль хацела рушыць на роварах да помніка Янку Купалу. Такім чынам меркавалася адзначыць 25-годдзе з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

Аднак мінскія ўлады не дазволілі велапрабег, спаслаўшыся на тое, што сябры ініцыятыўнай групы маюць права толькі праводзіць пікеты.

Юрыст Уладзімір Лабковіч пракаментаваў гэтую забарону так: "Улады сапраўды могуць не дазволіць велапрабег, таму што гэта масавае мерапрыемства ў грамадскім месцы, а падчас збору подпісаў на гарадскіх вуліцах дазволена толькі пікетаванне. Але ж калі прымяняць закон па ўсіх існуючых канонах, то нават святкаванне дня нараджэння ў кавярні можа быць расцэнена як масавае мерапрыемства».

ВОСТРЫМ ВОКАМ

## Анамалія

Цэнтрвыбаркам апублікаваў спісы ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Гэта пералік тых людзей, якія на працягу месяца будуць стаяць у пікетах і хадзіць па кватэрах, каб сабраць неабходныя 100 тысяч подпісаў.

Сярод актывістаў мала вядомых асоб, аднак нават сухія лічбы даюць выдатную карціну беларускага палітычнага жыцця.

У ініцыятыўнай групе Аляксандра Лукашэнкі 10.430 чалавек. Як яны набіраліся – невядома, бо абвесткі аб пошуку актывістаў не публікаваліся ў адкрытым доступе. Таямніца раскрываецца пры аналізе гендарнай прыналежнасці сяброў ініцыятыўнай групы.

Сярод «прыхільнікаў» Лукашэнкі 8673 жанчыны і 1757 мужчын. Прапорцыя складае 83:17. У 2010 годзе назіралася падобная сітуацыя, 81:19. Гэта неймаверныя лічбы! Яны дапушчальныя толькі ў выпадку, калі кандыдат мае яркую гендарную праграму, напрыклад, прадстаўляе жаночую партыю.

Зрэшты, раўнютка такая прапорцыя мужчын і жанчын сустракаецца ў зборніку Белстата, прысвечанаму адукацыі. Сярод настаўнікаў у беларускіх сярэдніх школах працуе 83% жанчын і 17% мужчын. Супадзенне?

У цэлым мужчыны ў сілу тых ці іншых абставін праяўляюць большую палітычную актыўнасць за жанчын. Такая тэндэнцыя назіраецца бадай ва ўсіх краінах свету. Савет Еўропы дэкларуе ў якасці адной з мэт давядзенне долі жанчын ва ўладзе да 40%.

Чым вышэйшы ўзровень улады, тым доля жанчын становіцца меншай. Напрыклад, сярод дэпутатаў беларускіх мясцовых Саветаў летась было абрана 46% жанчын. У Палаце прадстаўнікоў гэты паказчык зніжаецца да 26%, жанчын-міністраў – дзве.

Факт у тым, што ні на адной прыступцы палітычнай актыўнасці жанчын не бывае больш за мужчын. Аналіз спісаў ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты пацвярджае гэтую думку.

Напрыклад, сярод зборшчыкаў подпісаў Анатоля Лябедзькі 62% мужчын, у Сяргея Гайдукевіча – 60%. У Сяргея Калякіна і Таццяны Караткевіч – па 57%. Кандыдат Жанна Раманоўская з нерэпрэзентатыўнай малой ініцыятыўнай групай мае ў спісе 53% мужчын. У Віктара Цярэшчанкі – 50,4%.

То бок усе апаненты ўлады (тыя, хто хаця б заклікае галасаваць за сябе, а не за Лукашэнку), маюць сярод сваіх актывістаў 55–60% мужчын.

А што ж Мікалай Улаховіч, пра набор у ініцыятыўную групу якога не было вядома да апошняй хвіліны падачы дакументаў у ЦВК? Ягонае «Беларускае казацтва» – ушчэнт мужчынская арганізацыя, аднак у ініцыятыўнай групе лідара толькі 29% мужчын. Гэтая лічба куды бліжэй да паказчыкаў Лукашэнкі.

* * *

### Доля мужчын і жанчын у ініцыятыўных групах

| № | Кандыдат | Група | Доля мужчын | Доля жанчын |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аляксандр Лукашэнка | 10.577 | 17% | 83% |
| 2 | Сяргей Гайдукевіч | 2481 | 60% | 40% |
| 3 | Таццяна Караткевіч | 1993 | 57% | 43% |
| 4 | Сяргей Калякін | 1510 | 57% | 43% |
| 5 | Мікалай Улаховіч | 1426 | 29% | 71% |
| 6 | Анатоль Лябедзька | 977 | 62% | 38% |
| 7 | Віктар Цярэшчанка | 946 | 50,4% | 49,6% |
| 8 | Жанна Раманоўская | 110 | 53% | 47% |

**Ягор МАРЦІНОВІЧ**
nn.by.

ДАТА



# Мы, беларускі народ...

***Учора, 27 ліпеня, споўнілася 25 год з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.***

Дэкларацыя абвясціла поўны дзяржаўны суверэнітэт БССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах. З 1991-га па 1996 год галоўнае нацыянальнае свята Беларусі – Дзень незалежнасці – адзначалася менавіта 27 ліпеня і было прымеркавана да даты прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі падчас рэспубліканскага рэферэндуму 1996 года было прынята рашэнне аб святкаванні Дня незалежнасці 3 ліпеня ў дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

– Гэтая дата вельмі важная, бо мы паказалі шлях, якім павінна ісці беларуская нацыя. Там быў вельмі важны пункт, што дзяржава збіраецца быць нейтральнай і бяз'ядзернай, – кажа былы дэпутат Вярхоўнага Савета **Лявон БАРШЧЭЎСКІ.** – Гэта вельмі актуальна ў наш час, паколькі папаўзнавенні і спробы не заўважаць гэты пункт ёсць. Але мы маем аснову – маральную і прававую, каб некалі ўсё ж дамагчыся гэтага пункта. І пытанне незалежнасці краіны вельмі цесна звязана з гэтым. Калі мы будзем весці самастойную палітыку, то будзем незалежнай дзяржавай.

**– Кажуць, што Дэкларацыя была своеасаблівым кампрамісам эліт…**

– Думаю, што так. Большасць у Вярхоўным Савеце ўвогуле не ўяўляла і не думала пра гэта. Меншасць уяўляла і думала, але павінна была дамовіцца з большасцю. Прынамсі, першыя дзесяць пунктаў Дэкларацыі былі вынікам цяжкай працы і дамовы. Але ізноў-такі гэта паказала, што ў Беларусі розныя палітычныя плыні могуць паміж сабой дамаўляцца. І гэта таксама добры прыклад для будучыні. Усяго гэтага зараз няма.

**– А што маем праз 25 гадоў пасля прыняцця Дэкларацыі?**

– Прасцей сказаць, чаго не маем… Няма кампрамісу, няма рэальнай незалежнасці і руху да нейтралітэту. Дэкларацыя – дакумент на будучыню. І ў гэтым яго вялізнае значэнне.

СЛЫШАЛИ?

## Съезд Свободного профсоюза потребовал отставки президента и правительства

XI съезд Свободного профсоюза Беларуского (СПБ) состоялся в Минске в прошлые выходные.

Работа профсоюза за отчетный период была признана удовлетворительной. Михаила Ковалькова переизбрали председателем СПБ. Делегаты съезда приняли заявление о системном ухудшении социально-экономического положения трудящихся в Беларуси и потребовали отставки президента и правительства.

– Уже стали нормой сокращенные рабочие недели на многих предприятиях страны, а вместе с этим и снижение заработных плат работников. С учетом инфляции и роста цен заметно снизился уровень жизни как работающих граждан страны, так и пенсионеров. Резко снизилась покупательская способность граждан. Приходиться экономить на всем, и в первую очередь на продуктах питания, – отмечается в заявлении профсоюза.

Делегаты съезда потребовали: **«Президент и правительство, не способные справиться с наступившими и наступающими реалиями, должны уйти в отставку и не испытывать более терпение людей».**

В заявлении также содержится призыв прекратить преследование работников за членство в Свободном профсоюзе (особое внимание обращено на случаи увольнений на ОАО «Бобруйский завод тракторных деталей и агрегатов» и ОАО «Полоцк-Стекловолокно»).

Кроме того, делегаты XI съезда Свободного профсоюза потребовали отмены Декрета №29 «О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины», Декрета №5 «Об усилении требований к руководящим кадрам и работникам организаций» и Декрета №3 «О предупреждении социального иждивенчества» (о тунеядстве).

УРАДЖАЙ-2015




Сельгасарганізацыі Беларусі па стане на раніцу панядзелка 27 ліпеня намалацілі 1 мільён 242 тысячы тонн збожжа. Гэта амаль у 2,5 раза менш, чым на гэтую ж дату ў мінулым годзе.

Па аператыўнай інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, зерне абмалочана з 396 тысяч гектараў, або з 17,6% плошчаў, якія падлягаюць уборцы. У ведамстве таксама адзначаюць, што ўраджайнасць збожжавых і зернебабовых культур у бягучым годзе ніжэй за леташнюю на 7,9 цэнтнера з гектара і складае 31,4 ц/га. У многіх раёнах адмоўна адбілася засуха.

Паводле інфармацыі Мінсельгасхарча, па валавым зборы збожжа лідзіруюць сельгасарганізацыі Гомельскай вобласці, дзе сабрана 414,9 тысячы тон збожжа, але найбольш высокі ўзровень ураджайнасці – у сельгасарганізацыях Гродзенскай вобласці, дзе сярэдняя ўраджайнасць складае 46,3 ц/га.

НАДВОР'Е

## Не горача

Спакойнае, але не вельмі цёплае надвор'е абяцаюць сіноптыкі на гэтым тыдні.

Навальнічныя франты выціснулі вельмі цёплае паветра за межы краіны, і з поўдня Балтыйскага мора ў Беларусь пачало паступаць больш свежае паветра.

На гэтым тыдні чакаюцца кароткачасовыя дажджы, тэмпература паветра будзе на 1–3 градуса ніжэй за кліматычную норму, – паведамляе Белгідрамет.

У аўторак 28 ліпеня чакаюцца непрацяглыя дажджы, месцамі навальніцы, тэмпература днём +19...+26 у залежнасці ад рэгіёна.

У сераду захаваецца такое ж надвор'е. А вось 30 ліпеня, у чацвер, з поўдня Скандынавіі ў Беларусь прыйдзе парывісты вецер, хаця тэмпературны фон не зменіцца.

